# НАВІНКІ

5 - 12 лістапада 2002 №24(73) Кошт свабодны




Ну што, пацаны, ціпа ўся ўлада — Саветам?




# 7 ЛІСТАПАДА

Беларусы адпраўляюцца на неспадзяваныя чатырохдзённыя вакацыі з нагоды сьвята рэвалюцыі, якое ў большасьці насельніцтва даўно з рэвалюцыяй не асацыюецца.

## Як адцягнуцца па-пралетарску

Стар.4-5

## Бацьку выставілі ультыматум. Ці дадуць яму азыль?

Стар.2

## *Шляхі беларускага адраджэньня: парнуха — адзінае вернае выйсьце?*

*Стар.7*

## Газавая атака

Пахаладаньне ў беларуска-расейскіх дачыненьнях пачынае перарастаць у шырокамаштабную эканамічную вайну. Пакуль расейскія палітыкі Нямцоў і Хакамада дэманструюць прыхільнасьці да беларускай апазыцыі, буйнейшая расейская карпарацыя «Газпром» вырашыла закруціць газавы кранік Беларусі. Цяпер расейскі газ будзе каштаваць для нас на 50% даражэй. Паводле вэрсіі афіцыйнага Менску, «Газпром» вераломна парушыў папярэднія беларуска-расейскія пагадненьні. Пакуль беларускі і расейскія бакі будуць фільтраваць базар, забіваючы адзін аднаму стрэлы, нам, шараговым карыстальнікам прыроднага багацьця трэба запарыцца. Бо ж калі ў кране ня будзе газу, то на чым, прабачце хаўчык гатаваць Як жа будуць існаваць сярэднестатыстычныя жыхары асобна ўзятага беларускага дому, якія трапілі ў сытуацыю газавай галадухі, глядзіце на стар.8.




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. Нумар падпісаны да друку 05.11.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 284

# Як з карысьцю адзначыць сьвяты?

Чарговая, 85-ая гадавіна Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай Рэвалюцыі – сьвята, якое ў нашай краіне зьяўляецца дзяржаўным – неяк паблякла ў сваім першапачатковым ідэалягічным выглядзе. Няма табе ані вайсковых парадаў, ані ўзбуджаных калёнаў рабочых дэманстрацыяў, ані шчасьлівых дзяцей на карках бацькоў. І неяк становіцца нясьцерпна цікава, калі намагаесься ўсім сваім інтэлектам агарнуць той сэнс, які ўкладаецца афіцыйнымі ўладамі ў гэты чырвоны дзень календара. Усё менш і менш нават на афіцыйным узроўні прыгадваецца прычына ўрачыстасьцяў. Ня гледзячы на зьнешне савецкую эстэтыку сучаснага беларускага кіраўніцтва, наша краіна даўно ўжо ўпэўнена йдзе па шляху капіталістычнага будаўніцтва: уступаюць у строй новыя банкі-гіганты і прадстаўніцтвы замежных карпарацыяў, ніхто лішні раз не прыгадвае пра «фабрыкі рабочым» і «зямлю сялянам», а чырвоны кумач хутчэй успрымаецца ў якасьці фірмовага знаку «МакДональдса» або «Кока-Колы». У суседняй Расеі-калысцы Вялікага Кастрычніку намагаюцца нават пераканаць народ, што, маўляў, мэтамі бальшавіцкай рэвалюцыі былі зусім не сацыялістычныя пераўтварэньні, а прымірэньне і згода, пра што, напэўна, прасунутуя маскоўскія навукоўцы прачыталі ў закрытых архівах. Таму расейцы й перамянілі Дзень кастрычніцкай рэвалюцыі ў Дзень «Примирения и Согласия». Толькі раздробныя калекцыянэры значкаў зь Ленінам ды настальгісты па брэжнеўскіх залатых часах застою выходзяць прагуляць свае сярпаста-малаткастыя штандары па восеньскіх вуліцах.

Афіцыйныя ўлады проста заплюшчваюць вочы на такія пагулянкі, успрымаючы адэптаў культу Маркса-Леніна як пасьлядоўнікаў нейкай своеасаблівай сэкты.

Між тым большасьць грамадзянаў на прасторах былой Краіны Саветаў мала задумваецца пра вялікі сэнс сьвята. Для іх гэта яшчэ адзін жаданы выходны дзень у календары, і яшчэ адзін повад набухацца. А тут акурат выпадае такое шчасьце для абібока – цэлых чатыры дні выходных.

Клапоцячыся пра дасуг нашых чытачоў, мы вырашылі асабліва не загружаць іх на сьвяты, а наадварот, даць магчымасьць з карысьцю правесьці вольны час.

Адначасова мы хочам нагадаць, што гэта сьвята прысьвечанае рэвалюцыйным старонкам нашай гісторыі. Вашай увазе прапануюцца некалькі гульняў, якія разьлічаныя на розныя густы чытачоў паводле формы, але паводле зьместу маюць неперарвануюпупавіну зь Вялікім Кастрычнікам. Да таго ж яны маюць і пэўную аздараўленчую задачу: як паказала адмысловае тэставаньне, падчас заняцьця гэтымі забаўкамі колькасьць спажыванага алькаголю памяншаецца на цэлых 30%, або прыкладна на 24 грамы ў гадзіну. Досьледы, праведзеныя на расейцах, сьведчаць што сапраўды можна дасягнуць згоды й паразуменьня на першыя 15-20 хвілінаў гульні. Таму каб забавы не перарасьлі ў грамадзянскую вайну, раім загадзя ўскрыць вінныя погрыбы на бліжэйшым магазіне і назапасіць цудадзейных напояў з эфэктам паразуменьня.

Жыве Вялікая Кастрычніцкая Сацыялістычная Рэвадюцыя!

## Чапаеў

### Гульня часоў грамадзянскай вайны.

**Вядомая яшчэ з дарэвалюцыйных часоў пад назвай «пстрычкі». Аднак падчас рэвалюцыйнага ліхалецьця не заўжды знаходзіліся шашкі і байцы Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі вымушаныя былі карыстацца падручнымі сродкамі, рэквізаванымі ў клясавага ворага (напрыклад, пробкі ад бутэлек каньяку, бананавага брэндзі і інш.), адсюль і атрымала сваю назву.**

**ХОД ГУЛЬНІ:**

**Кожны з гульцоў набывае па 8 бутэлек аднасортнага піва. Паміж імі вызначаецца, хто будзе гуляць за чырвоных, а хто за адстойных белякоў. Адкаркаваўшы ўсе піўныя бутэлькі і адставіўшы іх, гульцы выстройваюць пробкамі свае пазыцыі: адзін супраць аднаго на сваім краі дошкі. (Як ужо зьвярталася ўвага, пробкі ў кожнага гульца пазначаныя адной маркай піва.)**

**Пачынаецца баталія: вы пстрыкаеце сваёй пробкай з разьлікам зьбіць з поля боя пробку праціўніка, застаўшыся пры гэтым на полі. У выпадку вылету пробкі нападаючага, ход пераходзіць да праціўніка. Выбіўшы праціўніка з поля бою вы выпіваеце адну бутэльку піва праціўніка і пасоўваеце свой шэраг на адну клетку наперад. У выпадку паразы наступаючага ў наступным баі той мусіць адступіць адну клетку назад.**

**Гульня йдзе да тых часоў, пакуль супернікі ня сыйдуцца ў штыкавую на апошняй лініі поля. Выйграе той, хто выбівае з дошкі пробкі праціўніка. Прайграўшы мусіць прагтавіць пераможцу столькі бутэлек піва, колькі ў таго засталося пробак на полі.**



*Puzzle*

# Ленін заўжды жывы

Гульні тыпу «пазл» бяруць свой пачатак з часоў Камуністычнага Інтэрнацыяналу. Пачынальнікам гульні быў славуты вугорскі камуніст Бэла Кун (ён, дарэчы зьяўляецца дзядзем выналодніка кубіка-рубіка), які прывез яе ў Маскву. Гульня была вельмі папулярнай сярод сябраў Камінтэрну, аднак пазьней сталіністы надоўга вычысьцілі яе з Савецкага Саюзу як параджэньне права-трацкісцкага ўхілу.

СЭНС ГУЛЬНІ:
Акуратна разрэжце нажніцамі квадрацікі і паспрабуйце аднавіць сыходную фотакарцінку «Ленін заўжды жывы», правільна дапасоўваючы фрагмэнты малюнку. Гульня разьвівае соцрэалістычнае мысьленьне, выхоўвае ў чалавеку пачуцьцё павагі да вялікага правадыра сусьветнага пралетарыяту.

# «Цусіма»

## Японская самурайская крыжаванка

Упершыню гэтую гульню прывезьлі былыя расейскія ваеннапалонныя, якія трапілі ў рукі японскіх марскіх камікадзэ падчас расейска-японскай вайны 1905 году. Нагадаем, што прагнучы пераможнай вайны над маленькай краінай (нібыта Пуцін над Чачэніяй), царскі ўрад прадэманстраваў сваю поўную бездапаможнасьць. Рабочыя і сяляне прасеклі гэтую фішку й выбухнула першая расейская рэвалюцыя 1905-07 гадоў – прадвесьніца Вялікага Кастрычніка.

Не апошнюю ролю ў прапагандзе сярод рабочых адыгралі антыўрадавыя праклямацыі, якія былі зашыфраваныя мудрагелістым мэтадам, які не магла разгадаць царская «ахранка». Толькі нядаўна было вызначана, што шыфр мужных рэвалюцыянэраў нагадвае папулярныя сёньня японскія крыжаванкі.

СЭНС ГУЛЬНІ:
Уявіце, што вы – рэвалюцыянэр-падпольшчык, якому прыйшла дырэктыва з Цэнтру, зд якой залежыць лёс паўстаньня. Ваша задача – расшыфраваць дырэктыву і данесьці яе да шырокіх працоўных мас, натхніўшы іх на рэвалюцыю.

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | 1 | 1 | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | 1 | 1 | | | | | | | | | | | | | 1 | 1 | | | | 3 | | | | | | | | | |
| | | | | | | 1 | 2 | | | 1 | 1 | | | 3 | | | | | | 1 | 2 | | | | 4 | 2 | | | 1 | 3 | | | | |
| 1 | 5 | 1 | | | | 4 | 1 | 8 | | 1 | 6 | | | 1 | 3 | 8 | 1 | | 1 | 2 | 1 | 8 | | 2 | 1 | 5 | | | 1 | 1 | 1 | | | |
| 2 | 2 | 2 | 5 | 8 | 1 | 3 | 1 | 1 | 1 | 4 | 1 | 10 | 1 | 6 | 2 | 3 | 2 | 12 | 3 | 3 | 1 | 1 | 1 | 5 | 1 | 3 | 1 | 8 | 6 | 2 | 6 | | | |
| 2 | 6 | 2 | 8 | 2 | 9 | 2 | 2 | 2 | 9 | 2 | 2 | 2 | 9 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | 9 | 2 | 2 | 2 | 9 | 2 | 2 | 2 | 9 | 2 | 2 | 2 | 1 | 15 | 15 | 15 |

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | 35 |
| | | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 3 | 1 | 1 | 3 | 1 | 1 | 2 |
| 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 3 | 3 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 |
| | | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 |
| | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 3 | 1 | 1 | 3 | 1 | 3 | 3 | 2 |
| | | | 1 | 1 | 1 | 1 | 3 | 1 | 1 | 1 | 3 | 1 | 2 |
| | | | | | | | | | | | | 4 | 30 |
| | | | | | | | | | | | | | 35 |
| | | | | 1 | 1 | 1 | 1 | 4 | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 |
| | | 1 | 1 | 1 | 3 | 1 | 4 | 1 | 4 | 1 | 3 | 1 | 3 |
| | | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | 3 | 2 | 2 | 1 | 3 |
| | 1 | 1 | 1 | 3 | 1 | 1 | 2 | 1 | 4 | 1 | 3 | 1 | 3 |
| | | | | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 |
| | | | | | | | | | | 15 | 3 | 12 | 2 |
| | | | | | | | | | | | | | 35 |

*НамАцалі кОнтру*

## Знайдзі 10 адрозьненьняў



Агентурныя сеткі краінаў Антанты спрабуюць задушыць маладую Савецкую Рэспубліку. І тут і там зьяўляюцца правакатары, спэкулянты хлебам і адкравенныя контаррэвалюцыянэры. Для барацьбы з контрай створанае ЧК, якое мусіць знаходзіць і мэтадычна зьнішчаць ворагаў рэвалюцыі. Махавік праведнага «чырвонага тэрору» пачынае набіраць абароты.

СЭНС ГУЛЬНІ:
Вы выпадкова па наводцы суседа-нэпмана трапілі ў рукі чэкістаў. Вам прыйдзецца пацьвердзіць сваю клясавую сьвядомасьць, вызначыўшы хто на гэтых карцінках свой, а хто чужы.

# ГАЗАВАЯ АТАКА

## Да чаго прывядзе расейскі газавы байкот?

## Як адрэагуюць на гэта простыя беларускія газаўжывальнікі?

Узмацніцца кантроль за расходаваньнем газу з боку газанадзору і іншых спэцыяльных службаў.




Большая частка людзей пяройдзе на традыцыйныя паліўныя рэсурсы: мэбля, кнігі і г.д.




Некаторыя сем'і будуць вымушаныя выкарыстоўваць унутраныя газа-паліўныя рэсурсы чалавечага арганізму.




Зьявіцца асаблівая цікавасьць да рознага кшталту гастранамічных сэктанцкіх рухаў, накшталт сыраедзтва.




Узмацніцца незаконная дзейнасьць па вытворчасьці газу з арганічных угнаеньняў.




Буйным цьветам расквітнее чаўночны бізнэс па дастаўцы газу з Расеі.






